# НАВІНКІ

15 - 22 мая 2003 №13(92) Кошт свабодны


**НАВІНКІ TV**
Праграма тэлебачаньня
19-25 мая 2003

# Будоўля стагодзьдзя ЗАМАРОЖАНАЯ!




## Нацыянальную бібліятэку будавалі на... балоце!

Падобна на тое, што супэрпраект будоўлі новага корпусу Нацыянальнай Бібліятэкі, якім ужо добра пратрахалі мозгі ўсім грамадзянам Беларусі, нациху пайшоў на дно. Як паведаміў шэраг інфамацыйных агенцтваў, будоўлю прыйшлося замарозіць, бо высьветлілася (?!), што будаўнічая пляцоўка была выбраная на тарфяной дрыгве. Цікава, што менавіта з тае прычыны гэтая мясцовасьць не была раней забудаваная жылымі каробкамі сталічнага мікрараёну Ўсход. Чым жа матывавалі кіраўнікі праекту выбар гэтага месца, акрамя як не схаваным жаданьнем сарваць будоўлю стагодзьдзя?

Аднак нас цікавіць і іншы бок гэтай гісторыі. А менавіта: КУДЫ ПАДЗЕЛІСЯ ГРОШЫ НА БУДАЎНІЦТВА, САБРАНЫЯ ЎСЕЙ КРАІНАЙ? Бо не сакрэт, што сродкі зьбіраліся ўсімі магчымымі спосабамі: вылічалі з заробкаў, хадзілі з торбай па людзях, гарбацілі на суботніках. А дзе вынік? Тут папахвае ўжо афэрай накшталт МММ або «Хапёр-Інвэсту» ды іншых фінансавых пірамідаў. Таму наша Рэдакцыя выступае з ініцыятывай неадкладна стварыць «Таварыства падманутых будаўнікоў Бібліятэкі» з мэтай вяртаньня нашых унёскаў, каб яны таксама ня канулі ў гэтым балоце.




ЗША апгрэйдзіла сьпіс небясьпечных арганізацыяў.

Стар.4

**Генэтычныя досьледы беларускай мэдыцыны.**

Стар. 3, 5

**АТЫПОВАЯ ПНЭЎМАНІЯ**



**СНІД XXI ст.?**

Стар. 6, 11

**Шоў трансвэстытаў пяра**

Наш папарацы Мурзілка з выставы «СМІ ў Беларусі» на стар. 16


Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у ПРУП «Чырвоная Зорка», г., Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2388

Нумар падпісаны да друку 15.05.2003г., а 00.01.

# Фабрыка генаў або чабурашак

Цікавыя экспэрымэнты праходзяць у родным Фатэрляндзе. Як піша *БДГ*, у сталічным Радыётэхнічным унівэры складаюць топ-хіт найбольш таленавітых студэнтаў. Планка ў рэйтынгу геніяў вызначаецца дзьвюма дамінантамі: адзнакамі ў залікоўцы і ступеньню праявы лаяльнасьці да рэжыму (напрыклад, тваё сяброўства ў юных патрыётах БРСМ). Чым вышэй месца ў хітпарадзе зойме студэнт, тым болей у яго шанцаў пазьбегнуць імпатэнцыі, калі




1

ня склеіць лыжы ад раку прадстальнай жалезы. Пры разьмеркаваньні пасьля заканчэньня ВНУ на будучыя месцы працы (сярод якіх інтэрнэткавярня ў Чарнобыльскай зоне), твой IQ будзе ўлічвацца перш за ўсё (адпаведна *БДГ*). Пагадзіцеся, ёсьць стымул быць патрыётам і кахаць бацьку бязьмерна. Галоўны імпэратыў палітыкі кіраўніцтва Радыётэху – пакончыць з дапатопным рэлятывізмам дэфініцыі «талент», прывесьці да ўлады ў грамадзтве асобаў з выбітнымі інтэлектуальнымі і маральнымі характарыстыкамі. Ура! Нарэшце абстрактны тэрмін «талент» набыў канкрэтны кантэкст. Талент з гэтага часу вызначаецца ідэалягічнымі сымпатыямі!




3

Фактычна гаворка ідзе аб карэкцыі трэндаў разьвіцьця інтэлектуальнага фонду нацыі, аб сэлекцыі нацыі на вумнікаў і даўнаў. Трэба вызнаць, што Беларусь ня першая краіна, лідэрам якой запала ў галаву пакончыць з імбіцыламі. Галоўная праблема тут – паводле якіх крытэраў вызначаць «сьмецьце» і «эліту», якім чынам аддзяляць як зерне ад плеўлаў. Нажаль, мэтады інтэлектуальнай гігіены, што практыкуе рэктарат «Радыётэхнікі», вельмі ненадзейныя. Сяброўская ксіва рэспубліканскага маладога патрыёта – рэч фармальная, якая не гарантуе, што ў беларускі арэапаг не пралезе нейкі акадэмік Сахараў. Трэба замацаваць пакуль што хліпкія прынцыпы групавой сэлекцыі беларускага юнацтва міжнароднай і гістарычнай практыкай. Імпарт замежнай практыкі на Беларусь дазволіць прывесьці да карміла беларускага соцыюму дастойных тыпаў, праніклівых думкамі аб Радзіме.

Саладухінскай спэрмы ўжо няма. Я дам вам Мулявінскай.

Я хачу, каб ён быў патрыётам і трохі сьпяваў.

2

Такім чынам трэба:

1) Стэрылізаваць апазыцыянэраў і ўсіх грамадзян. Такая палітыка праводзілася ў ЗША ў 20-ыя гады пасьля таго, як вучоны Марсан давёў, што інтэлект і тып паводзінаў перадаюцца ад бацькі да сына. Уявіце: сярод родзічаў Баха было 55 таленавітых музыкаў. А з 2500 патомкаў нейкага сп. Джука (нар. у 18 ст. ад шлюбу алькаголіка і прастытуткі) каля 55% праходзілі па крыміналцы. На канец 19 сямейка Джукаў нанесла ЗША шкоды на 1,2 млн. даляраў. Цяпер паспрабуйце адказаць, кім стане сын Вячорка? Ды ўжо не вядучым праграмы «Пасткрыптум». Ніводнай апазыцыйнай храмасомы не павінна пранікнуць у матку. Гэта – залог таленавітасьці нацыі!

2) Забясьпечыць беларускіх жанчынаў спэрмай выбітных людзей: рэктара «Радыётэху», міністраў, прэзыдэнта. Нічога тут сьмешнага няма. С.Сераброўскі, адзін з кіраўнікоў «Бюро по евгенике при Комиссии по естественным производительным силам России» (КЕПС) лічыў, што калі савецкіх жанчын апладатварыць спэрмай Ульянава-Леніна, краіна атрымае фантастычнае патомства – сьвядомых будаўнікоў камунізму. З такімі энтузіястамі можна будзе выконваць пяцігодку за 2,5 гады.

3) Увесьці антрапалягічны прынцып ідэнтыфікацыі геніяў. Трэба правесьці антрапалягічную экспэдыцыю на Варвашэні-8 (сядзіба БНФ) і на Маркса-40 (сядзіба БРСМ), вызначыць зьнешнія характарыстыкі апазыцыянэраў і таленавітых патрыётаў (памер чэрапу, наклон носу, разрэз вачэй). Сыстэматызаваць матэрыял і выдаць інструкцыю. Пры паступленьні ў ВНУ сябры прыёмных камісіяў павінны ўважліваназіраць за антрапалягічнымі дадзенымі абітурыентаў і не пускаць у аўдыторыі людзей зь відавочнымі дэвіяцыямі на апазыцыйнасьць. Іспыты ў ВНУ можна ўвогуле скасаваць. Разам пакончым з карупцыяй і з апазыцыйнай фрондай.

4) У свой час ідэоляг біясацыялёгіі Чэмбэрлен задаваўся пытаньнем: «Хіба высакародныя пароды жывёлаў – цяглавыя коні з Плімуту, амэрыканскі рысак і ірляндзкія гончыя зьявіліся на сьвет выпадкова?». Натуральна, не! Пазычце ў жывёлагадоўцаў і канаводаў тэхналёгію пароды ската, і мы выведзем пароду беларусаў. Мэтодыка заснаваная на тым, што з жывёлаў робяць родавых дэгенэратаў, разьвіваючы ў іх толькі адну-дзьве якасьці. Геніяльная ідэя! Сябры БРСМ павінны савакупляцца выключна паміж сабой. Гэта дасьць краіне пароду геніяў-патрыётаў і не дапусьціць да ўлады палітмутантаў. ОТК павінна працаваць у кожным радзільным доме! ●




4

---



## Гаворыць Скаруліс...

Агляд айчыннай аналітыкі беларускім палітэмігрантам са Швайцарыі і Бэльгіі

Нашыя палітычныя аналітыкі ўрэшце знайшлі тэму, якая задавальняла б і іх саміх, і чытачоў неаналітычных палітыкаў. Гэта лёгкая музыка, ці проста «папса». Канстанцін Скуратовіч на старонках *Белорусского Рынка* абвінавачвае папсу ў тым, што моладзь не выконвае дасататкова інтэнсіўна рашэньні партыі і ўраду, папросту зрывае пасяўную:

Даже высокий уровень официальной и неофициальной безработицы, в том числе и молодежной, не стимулирует юношей и девушек на трудовые свершения в промышленности и сельском хозяйстве. Представляется потому, что поведенческие стандарты нового поколения определяются не установками партии и правительства, а тем масскультом, махровой «попсой», которая в одночасье стала самым важным из всех видов искусств.



Сьвятлана Калінкіна ў *БДГ для служебного пользования* расьпісвае пра скандал у эфіры, калі прэзыдэнт па ФМ-радыё пачуў гурт КРАСКИ: «Почему всякие краски в эфире, надо, чтобы были белорусские исполнители, белорусские группы».
Чым і аскандаліўся, бо КРАСКИ – што ні на ёсьць менскі гурт.
Калюмніст і рэдактар *Архэ* Валерка Булгакаў спрабуе прадставіць прэзыдэнта культурным і інтэлігентным знаўцам сучаснай музыкі і літаратуры, здаецца, задачай нумару зьяўляецца пераадольваньне не гамафобіі, а «лукафобіі»:



Спантанныя выказваньні самога Лукашэнкі... руйнуюць выгодны як уладам, так і апазыцыі стэрэатып пра яго як пра «ваабшчэ ненармальнага калгасьніка». Лукашэнка, па уласным прызнаньні, глядзіць «CNN», «Euronews» і «BBC», чытае *Рухнаму* Сапармурата Туркмэнбашы Ніязава ў перакладзе на беларускую мову, слухае скандальную расейскую поп-групу ТАТУ, называе расейскага пісьменьніка Міхаіла Булгакава клясыкам і высока ацэньвае ваяцкія здольнасьці чачэнскіх сэпаратыстаў.

А.Грыцанаў на старонках *Белорусской газеты* ператварыўся ў тэатральнага крытыка і заняўся пісаньнем пра брадвэйскія шоў:



Приезд в Минск мюзикла «Мэтро» чудесным образом совпал с бурным разворачиванием всевозможных театральных действ по всей планете. «Маски кроликов, слонов и алкоголиков» (как живописал классик В.С.Высоцкий) раздали многим – не всем, правда, они одинаково к лицу.

А ў якой жахлівай масцы явіўся публіцы рэдактар *Нашай Нівы* – бязь левага вока, толькі з правым і тое хворым на палітычны дальтанізм, бо правае вока Дынька Павал Севярынец убачыла на хакейным матчы Латвія-Беларусь «бел-чырвона-белых латышоў» ●

**Арсень Скаруліс,**
палітуцякач

# Слаўны юбілей вялікага пісьменьніка

У красавіку 450 гадоў таму (дакладная дата невядомая) памёр Францсуа Рабле (1494-1553), пісьменьнік, які па праву лічыцца адным з заснавальнікаў ня толькі францускай, але і ўсёй эўрапейскай літаратуры ўвогуле. Разам з тым няўзброеным вокам відавочная самая што ні на ёсьць «нелітаратурнасьць» Рабле – героі бесьсьмяротнага раману займаюцца тым, чым займаюцца звычайныя людзі – ядуць, бухаюць, адпраўляюць самыя натуральныя патрэбы самым натуралістычным чынам. Літаратура XIX –XX стагодзьдзяў, якая вывела на сцэну ідэальных герояў, атрымала адказ «зьнізу» – народ стварыў вобразы паручніка Ржэўскага і Чапаева, каб скампэнсаваць штучныя вобразы герояў-зданяў, якія і ў прыбіральню ня ходзяць і харчуюцца ідэямі.

*«Рабле зьбіраў мудрасьць у віры народных старажытных правінцыйных дыялектаў, прымавак, выслоўяў, школьных фарсаў, з вуснаў дурняў і блазнаў»* – так пісаў францускі гісторык Мішле. Пра Рабле напісана шмат, але славу найбольш вядомага раблезіянца безумоўна заслужыў Міхал Бахцін, аўтар легендарнай кнігі «Творчество Франсуа Рабле и народная культура средневековья и ренессанса».



«Вобразам Рабле прысутная нейкая асаблівая прынцыповая і незьнішчальная «неафіцыйнасьць»: ніякі дагматызм, ніякая аўтарытарнасьць, ніякая аднабаковая сур'ёзнасьць ня ў стане ўжыцца з раблезіанскімі вобразамі, варожымі ўсялякай закончанасьці і ўстойлівасьці ўсялякай абмежаванай сур'ёзнасьці, ўсялякай гатовасьці і выршанасьці ў галіне думкі і сьветапогляду» – так пісаў Бахцін, для якога вобразы Рабле так і засталіся шмат у чым загадкай, нягледзячы на свой аб'ёмісты навуковы труд.

Адной са здагадак Бахціна зьяўляецца парадыйнасьць раману – Рабле травестуе афіцыйныя рэлігійныя сьвяты і кананічныя тэксты. Напрыклад, такі эпізод: Панург вырашыў адпомсьціць знатнай парыскай даме за непавагу да яго пачварным чынам: падсыпаў у складкі сукні разьмельчаныя палавыя органы сукі і 600 014 сабак ішлі за ёй і мачыліся на яе – пародыя на вялікодную працэсію зь Дзевай Марыяй на чале. Травестыя рэлігійнай працэсіі не была, аднак, блюзьнерствам. Верх становіцца нізам, галава — задам і палавымі органамі. Мяняюцца месцамі мужчынскае і жаночае. Замест пабожных словаў чуецца лаянка і брыдкаслоўе. Само супрацьстаўленьне жыцьця і сьмерці мяняюцца месцамі. Узначальвае Карнавал жабрак ці дурань *трыкстэр*, якога ўшаноўваюць як караля ці біскупа. Для Бахціна гэта ўсё было актуалізацыяй аграрных паганскіх міталягічных уяўленьняў і рытуалаў – каб зерне дало плод, яно павінна памерці, таму карнавальныя праклёны, кшталту «ідзі ты ў...», маюць сымбалічную прыроду і азначаюць «Вярніся ў лона маці, у апладняючы хаос матэрыяльна-цялеснага нізу, каб пасьля ачысьціцца і адрадзіцца». Такім чынам па Бахціну, брыдкая лаянка ня толькі прыемны занятак, але і карысны. Вядома, што ў часы суровай марксісцкай цэнзуры савецкі філёзаф Міхал Бахцін, каб апраўдаць сваё захапленьне нармальнымі цікавымі кніжкамі, мусіў прыдумаць ідэалягічна правільнае абгрунтаваньне сваім захапленьням, бо паехаў бы ў эміграцыю з Бердзяевым і Франкам ці на Салаўкі разам з Лосевым і Кантам. Такім чынам, разбурэньне цэркваў, блюзьнерства, расстрэлы сьвятароў мелі для савецкай улады вялікае значэньне як актывізацыя паганскай аграрнай магіі ў вялікай бітве за ўраджай ●

# Нашчадкі Рабле

**Т.В. ЩИТЦОВА**
***СОБЫТИЕ В ФИЛОСОФИИ БАХТИНА.***

Таццяна Шчытцова з цэнтру дасьледваньняў па гуманітарнай антрапалёгіі напісала кнігу, тэма якой – здарэньне ў філязофскім сэнсе. У сэнсе філязофіі Міхаіла Бахціна. Адразу трэба сказаць, што, калі

Т. В. Щитцова
Событие в философии Бахтина

чыць Бахціна, узьнікае жаданьне прачытаць Рабле цалкам, бо ў бахцінскай інтэрпрэтацыі легендарны рамана чытаецца часам цікавей за раман у чыстым выглядзе, дык кніга Т.Шчытцовай вяртае ўсё на свае месцы. Прадмет дасьледваньняў аўтара – *«натуральнае ўзаемапранікненьне філязофскага і рэлігійнага (хрысьціянскага) дыскурсаў, якія мы знаходзім у трох базавых тэкстах філязофіі здарэньня Бахціна : «Да філязофіі здарэньня», «Аўтар і герой у эстэтычнай дзейнасьці», «Праблема творчасьці Дастаеўскага» (сюды можна дадаць і кнігу пра Рабле)».*

Эстэтыка постмадэрну XX стагодзьдзя адвергла абсалютны сэнс здарэньня, зінтэпрэтаваўшы яго нігілістычным афарызмам Форэста Гампа What happened? Shit happened!

Гэтаму прынцыпу насамрэч больш адпавядае сам Францсуа Рабле без ідэалягічна прасунутых інтэрпрэтатараў. Трынк! – сказаў анургу аракул Боскай бутэлькі. «Трэба піць!» Пра карнавальны характар сучаснага сьвету, перадусім сьвету мас-медыяў пісалася шмат. Трэба нагадаць, што паводле канонаў дыялектычнага алькагольнага ап'яненьня заўсёды наступае ідэалягічны бадун – зноў эпоха цэнзуры, ідэалёгіі, паста і малітвы.

**ВАЛЯНЦІНА АКСАК**
***КАЛІФАРНІЙСКАЕ ВІНО***

Валянціна Аксак выдала кніжку вершаў (ужо чацьвёртую за сваё актыўнае паэтычнае жыцьцё), тэма якіх – калісьці забароненыя плады беларускай паэзіі: выпіўка і сэкс.

Часам нават з элемэнтамі эратычнага канібалізму:

Пасьцель,\ залітая віном \ у ёй так звабны\ водар твайго цела –\ найлепшы ланч, \ любімы трунак днём, \ апоўначы жаданая вячэра.

Сьвет, у якім родзіцца паэзія, таксама шчыра ўгноены грахамі і зганамі:

Сіні твар – \на першым пралёце, на трэцім –\ зялёны, \ на другім – \ наркаманы і пэдзікі\ дзеляць дозы і сэкс на бздыкі.

Лірычная гераіня Валянціны Аксак таксама моцна адрозьніваецца ад традыцыйных гераіняў Купалы, Куляшова і Някляева.

*Адметныя рысы: \ зь цела бруіць*



*\ невыводны водар «Cabernet» «Magie Noire» \ і сьвежае спэрмы*

Апошняе, на першы погляд, выклікае моцнае жаданьне пасланць такую лірычную гераіню куды адмыцца, але не сьпяшайцеся! У вершы ёсьць два пэрсанажы – адзін зь іх – маньяк, вартаўнік на цьвінтары і ўсе гэтыя водары – плод уяўленьня маньяка, які і сам зьяўляецца пладом уяўленьня Валянціны Аксак. Такім чынам сэкс (адраджэньне-нараджэньне) і сьмерць зьвязваюцца ў адно ў адным вершы, як у ўзгаданай ужо актуалізацыі аграрна-расьлінных мітаў.

Зусім іншы настрой амаль спавядальнага вершу «Баюся ўтапіцца» – лірычны маналёг, прасякнуты настроем экзыстэнцыяльнай трывогі за лёс жанчыны ў сучасным маскулінным сьвеце:

А то –\можна такому даць веры?\– у вядры,\ вадою зь якога зрэдчас\ мыю падлогу.

Чаму ў жанчыны на аднуізьвіліну больш чым у каня? – Каб не піла ваду зь вядра, калі падлогу мые – кажуць зласьлівыя антыфэміністы і зноў памыляюцца!

Жаночай беларускай паэзіі не спыніць не стрымаць, бо ў паэзіі нешта здараецца тады, калі нічога не здараецца, то бок, калі ўсё ідзе паводле спрадвечнага пляну ●

**Брат Жан**



# *Як адцягнуцца...*

## Па-каралеўску

Вечар пятніцы – сапраўднае сьвята для саплівых падлеткаў, якім удалося разьвесьці бацькоў на **дзесяць баксаў – у *Лядовым Палацы(16.05/18:00)*** выступае культавы «тыпу-панк» гурт **КОРОЛЬ И ШУТ**, у больш дарослым асяродзьдзі вядомая як **КОРОЛЬ И SHIT**. Галоўнае, не забыцца вывучыць прыпеўку песьні «Мёртвый анархист»...

## Па-эківоцку

Шырока вядомая ў вузкіх колах банда **ЭКІВОКІ** (папулярная ў народзе па песьні «Нравится – не нравится спи моя красавица») ізноў вылезла на белы сьвет, а дакладней на сцэну ***ДК МТЗ (16.05/19:00)*** са сваімі прыпеўкамі. Дзеля прыцягненьня публікі «у нагрузку» даюць такі разнастайны кантынгент як **Ка Слука й Саша Памідораў**. Спажываць гэты экзатычны кактэйль рэкамэндуецца толькі людзям з моцным страўнікам...

## Па-гаішнаму

***У маладзёжным тэатры эстрады (17.05/19:00)*** выступае брэйк-данс каманда **STREET MASTERS**. Хаця любому беларусу зразумела, што значна больш правоў выступаць пад назвай «Гаспадары вуліцы» ў Менску мае хіба зводны аркестар ППС МУС. Але што возьмеш з рэпераў – ніякай павагі да старэйшых па званьні.

## Па-старпёрску

Тыя, да каго яшчэ не дайшлі папярэднія паўтузіны спробаў, могуць у чарговы раз паспрабаваць праперціся ад «музыкі Вялікага Княства Літоўскага» (якая мае да арыгінальнай музыкі ВКЛ прыкладна такое ж дачыненьне як песьні ЛЕНИНГРАДА да 7 сімфоніі Шастаковіч). **У канцэрце *у ДК вэтэранаў (насупраць цырку, 20.05/19:00)*** прымуць удзел усё тыя ж твары – **СТАРЫ ОЛЬСА, КАНТРАДАНС, КУЗЬМЕНЬ**.

## Па-турыстычнаму

Вядомы сваёй транспартнай актыўнасьцю гурт **КРЫВІ** (ляўрэат «Рок-гільятыны-00» у намінацыі «Самы заезжаны гурт») выступаюць са справаздачай аб чарговым **шоп-туры пад лэйблам «Менск-Берлін»**. Месца правядзеньня – ***клюб «Графіці» (20.05/20:00)***.

## Па-сівому

Зарана састарэлы кумір моладзі 80-х **Юрасік Шатуноў** выступае з **пэнсыянэрскай праграмай «Сівая ноч» у былым доме палітпрасьветы *(КЗМ, 21.05/ 19:00)***. Нацыянальна сьвядомыя старычкі замест гэтага могуць наведаць фальклёрны тэатр **«Госьціца» *ў маладзёжным тэатры эстрады (22.05/19:00)***.

## Па-інвалідзку

Культавая банда **НОГУ СВЕЛО** таксама дакавыляла да ***КЗМ*** – танцы інвалідаў пачынаюцца ***22.05/19:00***.

## Па-кіношнаму

Глязець усялякую галівудзкую кінапарашу мы на гэтым тыдні ня будзем. А лепей сходзім у **Польскі кінаклюб, які 21.05 у БАМ прэзэнтуе фільм «Амбасадар» паводле твору Мрожэка**. Як заўсёды на халяву. Тыя, хто не пасьпеў на гэты кінасэанс, могуць скампэнсаваць прапушчанае **28.05**, наведаўшы (**таксама на халяву**) кінастужку **«Сізіфава праца» рэжысэра Камароўскага**.

Прыемнай халявы!

**Санітар,**
культурны футуроляг

# ШОЎ ТРАНСВЭСТЫТАЎ ПЯРА

**В**ыстава – раздача і продаж старых газэт пад назвай «СМІ ў Беларусі» прайшла ў дні 7-10 мая ў выставачным цэнтры «БелЭкспа», які ўсе гэтыя дні гудзеў як які папсовы вулей. Незалежныя (якіх было мала) залежныя (большасьць) і газэты, часопісы, тэле- і радыёпраграмы прадстаўлялі чытаючай публіцы свой культурны прадукт пад вясёлую музыку ды рэклямныя тырады масавікоў-зацейнікаў. У памяшканьні «Экспа», няма куды было плюнуць, побач гучалі і цымбалы і гурт ЛАКІ-КРАСКІ. Першы нацыянальны канал арганізоўваў кастынг для жадаючых стаць дыктарамі праграмы «Добрай раніцы, Беларусь!» і палохаць народ сваім іміджам у чатыры гадзіны раніцы. Крута адрывалася «Сямейная Антэна», дзе пераапранутыя ў жаночыя сукенкі хлопцы рэклямавалі касмэтыку. *Минский Курьер* раздаваў свае лютаўскія і сакавіцкія нумары, таму ня дзіва, што ў амаль летнюю сьпякоту зьявіліся Дзед-Мароз са Сьнягуркай для ўдзелу ў тэлешоў. Быў бы доўгім пералік самых розных спосабаў прыцягнуць увагу разявакаў, якія наведалі выставу, і ўрэшце ўгаварыць аформіць падпіску на сваю газэту. Падпіска дзяржаўных і недзяржаўных выданьняў катастрафічна падае, супрацоўнікі паштовай службы прымусова падпісваюцца на *Саўбелку*, бо інакш не атрымаюць прэмію. Пры ўсім заняпадзе інтарэсу да друкаванага слова і любой відэа- і аўдыё інфармацыі, аднавіўшыя ідэалягічную актыўнасьць улады патрабуюць ад сродкаў масавай інфармацыі, а перадусім ад тэлебачаньня і радыё максымальнай эфектыўнасьці. На выстаўцы прысутнічалі выданьні, пра якія ніхто не чуў, напрыклад, маладзёжная газэта *Наблюдатель*, *Бюлетень союзного государства*. Слаба былі прадстаўленыя неўрадавыя выданьні, увогуле, расейскамоўнай прэсы было нашмат больш. Усё прадпрыемства мала адрозьнівалася ад экспазыцыяў ВДНГ, якія раней і праходзілі ў памяшканьні «БелЭкспа», калі дла дэманстрацыі эканамічнай магутнасьці выстаўляўся шматтонны парсюк-рэкардсмэн, а ў правінцыі людзі душыліся ў чэргах па каўбасу. Каб наглядна адчуць, што сабой уяўляе сёньняшняя беларуская свабода прэсы, прапануем вам невялічкі фота-рэпартаж нашых папарацы акурат зь месца падзеяў гэтай своеасаблівай ярмаркі журналісцкай фанабэрыі.



Тэлеканалы вялі прамы эфір з выставы



Прадстаўнікі ўлады, як у першы раз, знаёміліся з экспанатамі выставы



Любы жадаючы мог на хвіліну пабыць у ролі ды-джэя радыякропкі.



Стэнд БТ вызначаўся музычным аздабленьнем мясцовых гуртоў.



Газэта *Антенна* пайшла нетрадыцыйным шляхам.



Знаёмыя журналісты падпрацоўвалі бутэрбродамі.



Як заўсёды, у пакоі СТВ было сумна і прасторна.



Маразм крэпчаў.



Узнагароду за плённую працу атрымаў кіраўнік СТВ Аляксандар Зімоўскі, у мінулым вядомы рэзанатар.



Меўся на выставе і некамэрцыйны закуток.



Як на салідной прэзэнтацыі, не абышлося без стрыптызу.



Вось і ўся інтрыга